Opłata pocztowa opłacona ryczałtem

Цана асобнага нумару 10 гр.

# РОДНЫ КРАЙ

Орган Т-ва Беларускае Асьветы — выходзіць 4 разы ў месяц.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Езуіцкая вул. 6, кв. 4.

Прыймо інтэрэсантаў: у Сэкрэтар'яце ТБА—у будні ад 9—12 г. у Рэдакцыі „ ад 12—14 г.

Цана падпіскі з дастаўкай поштай: За год 2 зл. 50 гр.; за паўгоду—1 зл. 35 гр. за 3 месяцы — 75 грош.; за 1 месяц — 30 грош.

№ 32 (84) | Вільня, 30-га лістапада 1935 г. | Год 3-ці.

## Магчымасьць новай вайны.

Апошнія падзеі ў Азіі ізноў зьвярнулі на сябе ўвагу усяго сьвету. І сапраўды, там адбываюцца вельмі важныя здарэньні. З ініцыятывы Японіі землі паўночнага Кітаю, на якіх жыве звыш 100 мільёнаў чалавек, аддзяліліся ад цэнтральнага нанкінскага ўраду, творачы аўтаномную адзінку з асобным урадам. Зразумела, што на гэных землях могуць быць тыя ці іншыя замешкі, але ўрэшце Японія будзе распараджацца ў іх так, як і ў Манджурыі, ці, інакш кажучы, як у сябе дома. Адначасна з паўночным Кітаем другая частка Кітаю, Усходні Туркестан, з абшарам каля мільёна васьмісот тысячаў квадратных кілёмэтраў, аддзяляецца ад цэнтральнага ўраду, падпадаючы пад уплывы Савецкае Расеі, якая ізноў-жа завядзе там такі парадак, які ёсьць у Расеі.

У паўдзённых акругох Кітаю ўжо ад некалькіх гадоў існуюць самастойныя ўрады, якія таксама не прызнаюць цэнтральнага і вядуць з ім аружнае змаганьне.

Такім чынам Кітай, гэнае найвялікшае зборышча людзей (звыш 400 мільёнаў чалавек), распаўся на некалькі зусім самастойных частак, у якіх пераважаюць уплывы або Японіі, або Расеі.

Гэтакі падзел Кітаю пашкодзіць інтарэсам тых вялікіх дзяржаваў, якія дасюль мелі ў Кітаі найбольшыя ўплывы, у першую чаргу пашкодзіць гандлёвым інтарэсам Англіі, Злучаных Штатаў і Францыі. Ізноў-жа пашыраныя ўплывы як Японіі, так і Расеі ствараюць пагрозу панаваньню тыхжа дзяржаваў у азіяцкіх калёніях, перадусім пагражаюць панаваньню Англіі ў Індыі, а Францыі ў Інда-Кітаі. Акрам таго, між Японіяй і Расеяй, якія дагэтуль вядуць вельмі актыўную палітыку ў Азіі, стараючыся адна другую выперадзіць у пашырэньні сваіх уплываў, таксама нямінуча мусіць дайсьці да спрэчак і да аружных канфліктаў. Вось чаму апошнія здарэньні ў Азіі, пэўне, адаб'юцца трывожным рэхам сярод вялікшых дзяржаваў сьвету і могуць выклікаць яшчэ большыя зьмены ў міжнародным жыцьці, чымсь італьянска-абісінская вайна. І хоць часам здараецца, што вайна пачынаецца там, дзе яе не чакалі, аднак часьцей яна пачынаецца там, дзе яе аддаўна спадзяюцца, дзе да яе гатуюцца. Такім месцам у сучасны мамэнт зьяўляецца Азія, у якой зблуталіся інтарэсы найвялікшых дзяржаваў сьвету, таму новая вайна ў Азіі зьяўляецца вельмі магчымай, і можа прывясьці да вялікіх зьменаў у сьвеце.

## З працэсу аб забойстве міністра Перацкага.

Апублікованыя дасюль дадзеныя сьледзтва з працэсу аб забойстве мін. Перацкага рысуюць кашмарны абраз работы украінскіх тэрорыстых на тэрыторыі Польшчы.

Высьняюцца шмат якія цікавыя мамэнты ідэолёгі і тактыкі ОУН (*Организація Українських Націоналістів*).

Беспасярэдні выканаўца забойства міністра Перацкага друкарскі работнік Мацейка ўцёк за граніцу і на лаве абвінавачаных яго няма. Таварышы і таварышкі яго па тэрорыстычнай арганізацыі, злоўленыя і пасаджаныя на лаву абвінавачаных, дэмонстрацыйна прабуюць выступаць перад судом у Варшаве паукраінску, няхочучы гаварыць папольску, за выняткам абвінавачанага Рамана Мыгаля, які ў суботу 23 гэтага лістапада першы нарушыў гэткую тактыку сваіх таварышоў, адказваючы суду папольску і прызнаючыся да ўсіх, зробленых ім, як сябрам ОУН, праступленьняў.

Але, перш за ўсё, якою была ідэолёгія і тактыка ОУН?

Акт абвінавачаньня констатуе, што украінскія тэрорыстыя з УВО (Українська Військова Организація) і ОУН ставілі сабе за мэту аб'яднаньне ўсіх украінскіх земляў у самастойнай украінскай дзяржаве. Нацыяналізм сяброў ОУН не пазбаўлены быў і адкрытага імпэрыялізму. 10-я „запаведзь" выданага і пашыранага ОУН палітычнага „сымболю веры" гаварыла проста: „Ты павінен імкнуцца да павялічэньня магутнасьці, багацьця і тэрыторыі Украіны, хоцьбы нават і шляхам паняволеньня іншых народаў".

Тактыку УВО і ОУН нельга назваць іначай, як тактыкаю гвалту. Тэрорыстыя імкнуліся стварыць незалежную украінскую дзяржаву шляхам рэвалюцыйнае барацьбы пры падмозе азброеньня масаў, агітацыі і, галоўным чынам, тэрорыстычных выступленьняў.

Друкованыя (тайныя) органы ОУН адкрыта пісалі, што украінскі нацыяналізм у сваім імкненьні да стварэньня незалежнай Украіны ані ня лічыцца з агульначалавечымі правіламі і законамі літасьці, маралі, солідарнасьці і справядлівасьці".—Кожная дарога, кожны шлях,—заяўлялі ў сваіх друках тэрорыстыя,—кожны шлях, які вядзе да хутчэйшага дасягненьня мэты, мы лічым за добры і прымаем, як-бы яго сабе ні называлі ці азначалі. Для нас усё роўна, ці нашыя паступкі назавуць подлымі, ці геройскімі.

Барацьбу, аднак, за украінскую дзяржаўнасьць ОУН разьвівала галоўным чынам у Польшчы, цэнтр свае арганізацыі маючы за граніцай.

Антыпольская прапаганда вядзецца друкамі ОУН, выдаванымі заграніцай і нелегальна пашыранымі ў Польшчы. Прапагандаю гэтаю кіруе спэцыяльнае бюро прэсы ОУН, якое знаходзіцца ў Жэнэве пад кіраўніцтвам самога галавы украінскіх тэрорыстых палкоўніка Канавальца. Агітацыйная прэса ОУН выкваляе тэрорыстычныя акты, заклікае байкатаваць польскі гарэлачны і табачны манаполь, вядзе агітацыю проці школаў усё роўна з польскаю ці з украінскаю моваю выкладаньня. Антышкольная агітацыя падмацоўваецца часам якім-небудзь тэрорыстычным выступленьнем. Гэтак, напрыклад, у жніўні месяцы 1933 году арганізованы быў замах на куратара львоўскага школьнага вокругу Гадомскага.

Акт абвінавачаньня пералічвае цэлы рад тэрорыстычных актаў УВО і ОУН; тэрорыстыя падпальвалі польскія двары, хутары і хаты, зьніштажалі жывы і няжывы інвэнтар, псавалі тэлефонныя і тэлеграфныя драты, нападалі на пошту і скарбовыя касы. Ня спыняліся яны ў сваёй крывавай акцыі і перад забойствамі. Гэтак загінуў пасол на Сойм Т. Голувко. Замахі рабіліся і на украінцаў, якія лёяльна адносіліся да Польшчы.

Вярбоўка новых маладых сілаў у рады тэрорыстых, муштра інструктароў заграніцай на вайсковых курсах і наагул уся тайная работа нелегальнай арганізацыі ОУН, як і раней УВО, вымагала значных коштаў. Па матар'яльную падмогу палкоўнік Канавалец зьвярнуўся да украінцаў у Паўночна-Амэрыканскіх Злучаных Штатах і Канадзе, а калі падмогі гэтае для ОУН аказалася мала, дык знойдзена была болей блізкая крыніца грашовай падмогі. Дакумэнты, знойдзеныя ў часе вобыску ў выдатнага сябра ОУН Сэныка, які жыве ў Празе, ясна ўстанавілі, што украінскіх тэрорыстых ў працягу некалькіх гадоў падтрымліваў літоўскі ўрад. Гэтае падтрыманьне аказвалася ня толькі ў форме заўсёднае грашовае субсыдыі, а і ў выдаваньні фікцыйных пашпартоў сябром УВО. Рэдакцыя лейб-органу украінскіх нацыяналістых „Сурма" карысталася правам гасьцінасьці ў Коўне. Сьледзтва устанавіла таксама, што ў Коўне знаходзілася разьведачная экспозытура УВО, на чале якое стаяў былы сотнік украінскае арміі Язэп Рэвюк, пражываючы там пад выдуманым імем Іонаса Бартовіцыуса. Ен і быў рэдактарам „Сурмы». Прадзейнасьць Рэвюка гаворыцца ў пісьмах Канавальца і Сэныка, знойдзеных у гэтага апошняга пры вобыску. З гэтых пісьмаў відаць, што літоўскі ўрад выдаваў Рэвюку для УВО кожныя тры месяцы 1500—2000 залатых даляраў, з якіх Рэвюк затрымліваў штомесяца 200 даляраў на выдаваньне „Сурмы", а рэшту грошай высылаў Канавальцу. Рахункі за 1930 год сьведчаць, што Канавалец атрымаў за той год ад Рэвюка 6.476 даляраў 63 цэнты. Аднак гэтае сумы на ўсе расходы не ставала і ў другой палове 1932 году пачаліся стараньні, каб дастаць ад літоўскага ўраду большыя сумы грошай.

Цэлы рад сяброў ОУН атрымліваў у Коўне літоўскія заграні͏чныя пашпарты, а літоўскае міністэрства заграні͏чных справаў, з якім Рэвюк быў увесь час у контакце, атрымлівала для тэрорыстых візы, неабходныя на праезд у Амэрыку. З літоўскім пашпартам у Амэрыку папаў сябар ОУН Раман Сушко, называўшы сябе літоўскім вураднікам, а гэтаму Сушко шмат памог літоўскі консуль у Нью-Іорку, які паручыўся за яго, як за літоўскага вурадніка, перад амэрыканскімі ўладамі.

Д-р Заўніус, які быў літоўскім міністрам заграні͏чных справаў у кабінэце Тубяліса з 1928 г. да 12 чэрвеня 1934 году, асабіста сустрачаўся з Канавальцам у Швайцарыі, аказваючы ўсялякую падмогу тэрорыстым. Субсыдыі, атрымліваныя Канавальцам з Коўна, былі фактычна асноваю ўсяго бюджэту тэрорыстых, складаючы, паводле словаў самога галавы УВО, 50 проц. усіх грашовых сумаў арганізацыі.

Ахвяры на справу тэрору з Амэрыкі ішлі на імя нейкага Фэдыны ў Гданск, які, па загаду Канавальца, скіроўваў іх нелегальным шляхам у Польшчу. У 1931 годзе Фэдына выслаў у Польшчу „на тэрор" 7.425 даляраў. У 1932 годзе ахвяры з Амэрыкі моцна паменшалі і ў Польшчу было выслана толькі 2740 даляраў. Затое з 1933 годзе, па загаду Канавальца ў Гданску было паслана ў Польшчу 81.500 злотых.

Часьць грошай на патрэбы свае арганізацыі дабывалі украінскія тэрорыстыя і экспропрыяцыямі, робленымі імі на тэрыторыі Польшчы.

Пасаджаныя цяпер на лаву абвінавачаных украінскія тэрорыстыя на чале з „краевым провідныком" Бандэрай адзін за адным прабавалі даваць суду свае паказаньні на украінскай мове. Дзеля гэтага суд пераходзіў да прачытваньня іхніх паказаньняў, даных імі на ўступным сьледзтве.

23-га гэтагв лістапада справа прыняла зусім іншы зварот: абвінавачаны Раман Мыгаль даваў свае паказаньні суду папольску.

Прэзэс суда паставіў Мыгалю пытаньне:

Ці абвінавачаны Мыгаль прызнаецца да таго, што з 1931 г. да 24 верасьня 1934 году ўзяў удзел у Арганізацыі Украінскіх Нацыяналістых, з мэтаю адарваньня ад польскае дзяржавы яе паўдзённа-усходніх ваяводзтваў, а таксама і да таго, што ў чэрвені і ў ліпні 1934 году ў Львове, з мэтаю даць магчымасьць Мацейцы, па забойстве ім 15 чэрвеня 1934 г. мін. Перацкага, ўцячы, дваекротна прыпрычыніўся да навязаньня ім арганізацыйнае сувязі з Малюцай?

Неспадзяванв для ўсіх абв. Мыгаль адказаў папольску: „Так, прызнаюся."

На пытаньне, ці хоча ён даць выясьненьні ў гэтай справе, Мыгаль дае згоду і пераходзіць да вельмі шырокіх свіх выясьненьняў.

— Перш за ўсё,—заявіў Мы

аль,—я хацеў-бы выясьніць Высокаму Суду, чаму я буду даваць паказаньні папольску. Паказаньнямі папольску не раблю ніякае шкоды украінцам, бо Варшава ляжыць не на украінскіх землях. А затым хачу выясьніць цэлы рад фактаў, аднак не дзеля таго, каб бараніцца, бо бараніцца не хачу і ня буду. Маю адвагу сказаць, што тое і тое я зрабіў і ўзяць за гэта адказнасьць.

Далей Мыгаль падробна прызнаецца, як ён у канцы 1930, ці ў пачатку 1931 году паступіў у ОУН. Перад тым, да 1930 г., як вучань гімназіі, быў сябрам г. зван. „Народнае Рэвалюцыйнае Арганізацыі“, а пасьля, здаўшы матуру, паступіў у даўнэйшае УВО. Паступіць у ОУН яго намовілі калегі, але называць іх ён ня будзе. Паступіўшы ў ОУН, Мыгаль спачатку спаўняў невялікія функцыі ў аддзеле прапаганды, раскідаючы нелегальную літэратуру. Затым яму паверылі прэсавы рэфэрат на горад Львоў, пасьля і на павет, а далей,—у канцы 1931, ці ў пачатку 1932 году,—абвінавачаны быў назначаны заступнікам рэфэрэнта прапаганды на ўсю Польшчу і да яго належала кантрабанда нелегальнае літэратуры з заграніцы. У 1932 годзе. Мыгаль, асабіста ідучы па транспорт бібулы ў Чэхаславакію. быў арыштаваны і дастаўлены ў Каламыю, а пасьля засуджаны на кару вастрогу. Загады езьдзіць у Чэхаславакію па бібулу даваў Мыгалю абвінавачаны Бандэра. Выйшаўшы з вастрогу Мыгаль працаваў ужо не ў рэфэраце прапаганды, а ў баявым рэфэраце. Бандэра загадаў яму сачыць за савецкім консулем у Львове, на якога рыхтаваўся замах. Расказвае Мыгаль таксама і аб тым, як сачыў, па загаду. Бандэры, за прафэсарам Антонам Крушэльныцкім, выдаваўшым камуністычную часопісь „Новыя Шляхі“, а таксама за вастрожным камісарам Касабудзкім, маючы, ў пэўным часе, дзьве бомбы— адну газавую дзеля замаху на савецкі консулят, і другую ў форме кніжкі, дзеля замаху на Касабудзкага. Мыгаль сам асабіста застрэліў Бачынскага, каторага ў ОУН лічылі за конфідэнта, а таксама кіраваў замахам на дырэктара украінскае гімназіі Бабія, забітага Царам, злоўленым паліцыяй. Ад расказу Мыгаля пра забойства Бачынскага вее жахам і цынізмам. Пра свайго памоцніка Сэньківа Мыгаль, кажа, што калі-б ня ён, Мыгаль, дык чалавек гэты да саньняшняга дня працаваў-бы спакойна і ня ведаў-бы, што такое ОУН, бо ня цікавіўся палітыкаю, а Мыгаль уцягнуў яго ў арганізацыю. Мыгаль, Сэнькіў і Бачынскі зайшлі разам, як таварышы ў рэстаран, павячэралі, выпілі гарэлкі і піва, а пасьля, выйшаўшы ў парк, Мыгаль першы стрэліў некалькі разоў у Бачынскага, затым колькі разоў стрэліў Сэнькіў.

Што датычыць замаху на міністра Перацкага, дык абв. Мыгаль заявіў, што пра падрыхтоўку гэтага забойства ён нічога ня ведаў, бо загадваў львоўскім вокругам, а забойства падрыхтоўвалася ў Варшаве. Пра забойства Мыгаль даведаўся з экстрэннага выпуску газэты. Пасьля забойства мін. Перацкага, ён бачыў забойцу—Мацейку. Гэта адбылося за горадам: Мыгаль і Мацейка прывіталіся і Мыгаль павіншаваў таго „з удачаю“. Быўшы пры гэтым абвінавачаны Качмарскі даў Мацейцы рэвальвэр. Мацейка тут-жа сказаў, што калі яго зловяць, дык ён прыме на сябе віну за забойства, ў свой час, Бачынскага.

У чэрвені 1933 году Мыгаль хацеў выйсьці з арганізацыі, бо ня меў за што жыць. Тады Бандэра настаяў, каб ён прыняў сабе на жыцьцё 65 зл. у месяц, бо ён арганізацыі патрэбен.

Мыгаль кажа, што на сьледзтве нэрвы яго здаліся і праз гэта чатырох ці пяцёх з яго таварышоў сядзяць у вастрозе. Мыгаль хоча сваімі паказаньнямі палегчыць іх лёс, хоць бы яму самому пагражала шыбеніца.

Адзін з абаронцаў задаў Мыгалю пытаньне:

— Чаму вы з гэткім задаволеньнем падчыркваеце на судзе сваю віну? Я не разумею гэткага імкненьня папасьць на шыбеніцу.

Абв. Мыгаль адказаў з гарачкаю:

— Я не зьяўляюся прыяцелем палякоў. Ад свае бабкі я чуў пра тое, як яны катавалі украінцаў. Гэтулькі украінцаў загінула на шыбеніцах! Дык хай загіну на шыбеніцы і я, замест тых, хто ўжо загінуў і хто яшчэ загіне.

Сваімі паказаньнямі Мыгаль запраўды зрабіў сэнсацыйны зварот у справе, сільна абцяжваючы іншых абвінавачаных, асабліва Бандэру і Підгайнага.

## Канфлікт між Англіяй і Францыяй.

Правыя францускія газэты падчырківаюць, што палітыка Ляваля, яўна накіраваная на падтрыманьне Муссоліні, а з ім — і фашызму, сустрэлася з падтрыманьнем у шырокіх кругох францускага грамадзянства, але адначасна Ляваль стараецца ўсімі спосабамі не дапусьціць да вайны ў Эўропе і гэта згаджаецца з пацыфістычнымі імкненьнямі левых.

Зусім іншая палітыка ангельскага міністэрства замежных спраў, якая мае ўсе рыскі антыфашыстоўскіх тэндэнцыяў. Гэтыя разыходжаньні між францускім і ангельскім міністрамі замежных справаў знайшлі сваё адбіцьцё і ў адносінах да Лігі Народаў. Англія адносіцца да апошняй з піетызмам, а Францыя, захоўваючы што праўда прынамся вонкавае ўміленьне, уважае Лігу аружжам вайны, паслухмяным рабом ангельскага імпэр'ялізму.

У Францыі кампанію процiў Ляваля вядуць левыя палітыкі, незадаволеныя тым, што Ляваль адкрыта выступіў процiў больш цесных адносінаў з СССР, зьмяніўшы ор'ентацыю з Масквы на Бэрлін.

Ангельская грамадзкая апінія з задаваленьнем сустрэла-б упадак Ляваля, бо гэта магло-б азначаць і ўпадак Муссоліні.

СССР, бачучы крах франкасавецкіх адносінаў і праявы франка-нямецкай згоды, таксама прыняў-бы ўпадак Ляваля радасна.

У гэтым і зьмяшчаюцца прычыны падпольнай вайны між Францыяй і Англіяй, Францыяй і СССР, прычым, інспіраваныя Масквою францускія камуністы ўсімі сіламі імкнуцца да таго, каб гэтая схаваная вайна як можна хутчэй перайшла ў вулічныя баі на барыкадах Парыжу, Марсэлю і Ліможу.

Англія дзеіць больш тонка, робячы стаўку на санкцыі, а менавіта—на пашырэньне іх на дастаўку Італіі вугальля і нэфты. Калі Англія даб'ецца гэтага—блёкада італьянскіх берагоў станецца немінучай, а вайна—магчымай.

Але гэтая фактычная падрыхтоўка вайны праводзіцца пад клічам барацьбы „за мір усяго сьвету“, пад прыкрыцьцём аўторытэту Лігі Народаў.

Адсрочка на неакрэсьлены час вырашэньня пытаньня ўвозу ў Італію нэфты — гэта перамога Ляваля. Тым больш пажаданым было-б для Англіі бачыць хутчэй на становішчы францускага прэм'ера чалавека больш згоднага ў пытаньні аб санкцыях і згоднага пайсьці разам з Англіяй і Лігай Народаў—процiў Муссоліні.

## Абісінскія тытулы.

Чытаючы весткі з абісінскага тэатру ваенных падзеяў часта трапляем на ўсялякія тытулы павадыроў; назовы гэтыя—зусім чужыя для эўрапэйскага вуха і незаўсёды зразумелыя.

„Ilustrowany Kurjer Codzienny“ за 25 лістапада с. г. № 327 вытлумачвае сваім чытачом некалькі назоваў абісінскіх саноўнікаў, якія найчасьцей сустракаем пры чытаньні газэтаў.

Адміністрацыйная ўлада ў Абісіні зьвязана з вайсковаю і дзеля гэтага няма там спэцыяльных тытулаў у ваеннай іерархіі. Кожны „цывільны“ ўладар зьяўляецца адначасна і вышэйшым вайсковым камандзерам.

Асобныя правінцыі ў Абісініі маюць уласнае войска, найвышэйшым павадыром якога ёсьць, ведама-ж, нэгус у Адзіс-Абэбе, але беспасярэдня камандуюць войскам князі дадзеных правінцыяў.

Вось некалькі найвышэйшых тытулаў: пасьля нэгуса ў фэодальнай, радавой і вайсковай іерархіі ідуць:

*Рас*—удзельны князь, уладар правінцыі, а таксама камандзер арміі; *дэджак* — граф, ваявода і камандзер корпусу; *дэджазмак* — барон, стараста і камандзер дывізіі, *фітаурары* — начальнік раёну, генэрал, камандзер палку *каньязмак*—начальнік вокругу, палкоўнік; *гразмак* — падпалкоўнік, *азмак*—маёр.

Часта сярод шляхоцкіх абісінскіх родаў (асабліва амгарскіх) паўтараюцца адны і тыя самыя імёны ды прозьвішчы. Напр. цэлае прозьвішча вядомага раса Гуксы, перайшоўшага ва бок італьянцаў, завецца Гаіле Сэлясьсі Гукса, а тымчасам і сам абісінскі нэгус называецца Гаіле Сэлясьсі, што часам можа ўвясьці чытача ў памылку—гэтыя два імёны лёгка зьмяшаць. Таксама вядомы рас Касса мае свайго цёзку дэджака Касса Сэбат, які б'ецца пад Азбі ў Данкаліі.

Варта заўважыць, што італьянцы ўжываюць у гэтай вайне, як праваднікоў-разьведчыкаў вельмі ваяўнічы элемэнт жаўнераў туземных корпусаў. На фронце Тігрэ яны завуцца *аскары* (эрытрэйскія стральцы), а на фронце Огадэн — *дубат* (сомалійскія стральцы).

## Да беларускіх жанчын.

Кожны раз, як толькі пераглядаю якую-небудзь беларускую газэту або часопісь, ці бачу квэстуючых на вуліцы і т. п., кожны раз думаю аб нашых беларускіх жанчынах і аб той грамадзкай працы, якую-б належала ім узлажыць на сябе. Чым горшыя мы ад жанчын іншых нацыянальнасьцяў? — Мы можам быць такімі-ж актыўнымі грамадзянкамі, як і яны, а між тым, у гэтых адносінах, мы стаім далёка ззаду, бо нас ня відаць і ня чуваць.

Гаворачы аб актыўнасьці, я маю перадусім на мэце ўзаемапо-

# З выдавецкае нівы.

*„Калосьсе“*. Літаратурна-Навуковы Часапіс. Кніжка 3. Вільня, 1935 г.

Адзіны журнал-квартальнік на ўсю Заходнюю Беларусь —„Калосьсе“, хоць паказваецца ў сьвет ужо трэці раз у сёлетнім годзе, пабольшаньнем ліку свае літэратурнае сям'і пахваліцца ня можа. І ў разгляданай цяпер 3-яй кніжцы „Калосься“ бачым усё тыя самыя знаёмыя ўжо імёны пісьменьнікаў.

Хочучы пазнаёміць заходнябеларускага чытача з творчасьцю і ўсходніх беларускіх літэратараў, рэдакцыйная калегія „Калосься“ перадрукоўвае драбнейшыя творы (расказы, вершы) некаторых менскіх аўтараў.

Наагул вершы — гэта як-бы „генэральны“ матар'ял у „Калосьсі“. Іх кожны раз зьмяшчаецца шмат і ня ўсе яны „дасьпелі“, каб зьяўляцца на журнальных бачынах. Да поэтаў рэдакцыя „Калосься“ адносіцца зусім нястрога. Некаторыя аўторы, як напрыклад Міхась Машара, у выпушчанай два тыдні назад (са спазьненьнем) 3-яй кніжцы „Калосься“ прэзэнтуюцца далёка ня лепшымі сваімі вершамі. Яго „З цыклю „Вясьнянкі“, „Сёмуха“ ды некалькі вершаў без загалоўкаў апублікованы ўжо крыху раней у асобным зборніку „На прадвесьні“ сярод часамі сільнейшых, а часам і слабейшых твораў.

Трэцяя кніжка „Калосься“ пачынаецца вельмі арыгінальным, „рыфмованым“ асонансамі, вершам Хведара Ільляшэвіча „Васеньняя поэма“:

„Неба—сіні плякат—
Серабрыстымі ніўкамі выткала
восень—
Яблык сьпелы ў руках
Басаногая дзеўчынка ў вуліцы
носіць“...

Сьмелымі рысамі аўтор малюе наступленьне восені. Чытаючы верш, адчуваецца, што яна ўжо зусім блізка.

Моцна ўдарае па струнах свае ліры Ільляшэвіч і ў адным месцы другога свайго верша—„Зацьвітай родны край, зацьвітай“.

Аўтор пяе:

„У тваіх песьнях-нядолі іржа —
Уздыхні-ж песьняй новай, вясёлай.
Раздавайся юнацкі наш шаг
Па дарогах радзімых сёлаў!
З моцнай верай у лепшыя дні,
Беларускую даль ускалосім —
Ў электрычным скупаем агні
Твае постаці цёмныя вёсак“.

Арыгінальную сваю думку ў мастацкай форме выражае Х. Ільляшэвіч у трэцім кароценькім вершы:

„Па вёсках Беларусі
Сялянскі едзе воз,
На ім труна ў дзярузе—
Ў труне той—поўна сьлёз.
Ляжыць на веку ліра —
Ў ёй струнаў цэлы рад.
Галосяць яны шчыра
На нашаніўскі лад.
Выходзяць людзі гурмам
І жаласна глядзяць,
А гэты воз хаўтурны
Здалёк усё чуваць“.

Усе тры вершы Ільляшэвіча—сьвежыя, памечаныя лічбай „1935“.

Вершы Ільляшэвіча моцна выдзяляюцца сярод як-бы „адным махам“ напісаных вершаў успомненага ўжо Машары—то бунтарна-вясёлага, то тужлівага,—выдзяляюцца яны сваёю апрацованасьцю і ў параўнаньні з незаўсёды вытрыманымі ў сваёй тональнасьці вершамі А. Бярозкі („Ноч ідзе“ і 2 вершы без назоваў).

Пасьля перадруку расказу „Прысады“ ўсходня - беларускага прозаіка Сымона Баранавых, літэратурная часьць 3-е кніжкі „Калосься“ замыкаецца перадрукованымі з менскіх зборнікаў вершамі Уладзімера Дубоўкі: „Пачынаецца з-пад хмар вандроўных“, „Паляжам мы“, „Можаце лаяцца“ і „Ня можа абыйсьціся бяз лірыкі“.

Ул. Дубоўка вядомы дзе-каму з заходня-беларускіх чытачоў па сваім зборніку вершаў „Строма“, выданым у Вільні ў 1923 годзе, з цікавым лексыконам (удачныя нэолёгізмы), а таксама і футурыстычнымі часам формамі ў духу расейскага поэта Ігара Северaніна.

Сярод радкоў рэдакцыйнае ўвагі да вершаў Дубоўкі знаходзім сумную навіну: „Ад некулькі год поэта нічога ня друкуе, ня маем ніякіх вестак, што з ім сталася наагул“...

Усё магло стацца з поэтам-патрыётам на Усходзе, калі ўдумацца ў яго хоць-бы гэткі „нацдэмаўскі“ верш, як „Ня можа абыйсьціся бяз лірыкі“:

„І ціхазвонна і паволі восень лісьцё наземіць, сьцеле у даліны. Хвіліну вецер іх цярушыць, носіць, пакуль зямлі на грудзі ня ўскіне. Няма жалобы, ня чуваць і скаргі: тугу жыцьцё ў лісьці пазалаціла. На Беларусі і ў пясках Сахары адна уцеха ім і роўная магіла. А дні вясны маей? Паволі так-жа і ціхазвонна ў нябыцьцё зьнікаюць. У памяці іх сьлед ня згіне-ляжа, і цяжкі часам ён, я

мач. Гэтая галіна грамадзкай дзейнасьці, як мне здаецца, больш свомая натуры жанчыны, чым мужчыны, як больш чулай і адзыўчывай; таму і мой заклік будзе скіраваны да беларускіх жанчын.

У нас столькі абдзёртых дзяцей ходзіць у школу! Арганізацыяй нейкага вечару, квэсты, лётэрэі і т. п. мы змаглі-б іх апрануць. Нашую жабруючую інтэлігенцыю мы маглі-б падтрымаць, зарганізаваўшы сталоўку. Мы таксама ня маем і прытулку і нашых дзяцей падбіраюць прытулкі іншых нацыянальнасьцяў... Цяпержа, калі думкай перанясемся на вёску, дык і там мы неабходны,—там нас чакаюць масы беларускіх жанчын, якія жывуць у беспрасьвецьці і цемнаце. Праз іх мы павінны праліць сьвет на іх сем'і, навучыць іх, як жыць і працаваць, каб палепшыць сваю цяжкую долю. Мы-б нясьлі сьвет у цёмныя сялянскія хаты, падымалі-б нашу вёску культурна і нацыянальна. Падаючы розныя гігіенічныя правілы, стасаваньне дзіцячай дыеты, чытаючы лекцыі і т. п., мы-б захавалі ад захварэньняў і сьмерці шмат нашых дзяцей. Перад намі мора працы. Нам неабходна мець сваю часопісь або куток у газэце, праз якую мы маглі-б мець кантакт з вёскай. Пішу ўсё гэта ў надзеі, што шмат нашых жанчын згаджаецца з маім поглядам і таксама рвецца да грамадзкае працы, цяжучыся бяздзейнасьцю.

Дык злучымся ўсе ў „Аб'еднаньні Беларускіх Жанчын", у нашай адзінай арганізацыі, прабудзім яе са сну, у якім яна цяпер знаходзіцца, парушым яе так, каб сваёй дзеяльнасьцю яна дала знаць аб сабе далёка па за Вільняй.

*Грамадзянка*

## Як марнуецца грамадзкае дабро ў Беларускім Навуковым Т-ве

Спаткаў гэта я нэйк бібліятэкара Беларускага Навуковага Таварыства, грам. У. Самойло, каторы адразу пачаў „горы вярнуць" на Дырэктара гімназіі грам. Р. Астроўскага. І чаго ён толькі не нагаварыў, але ўсё гэта было переважна старою, як кажуць, песьняю, у якой было яшчэ адно новае пераканаьне.

— Вучні, мамачка, кажа гр. Самойла, пабралі шмат кніг з бібліятэкі Навуковага Т-ва і не зварочваюць іх. „Абрашчался мамачка, к дырэктару, но конечно он нарочно, мамачка, нам свінство делает".

Яшчэ нешта плёў ён мне аб грамадзкай адказнасьці, аб этыцы і т. д., але я больш ня слухаў, разьвітаўся і абураны гэтаю гутаркаю, пастанавіў зайсьці да Дырэктара ў Беларускую Гімназію.

Прыйшлося што праўда крыху пачакаць, бо Дырэктар быў заняты, але ўрэшце прыняў мяне.

— Чым магу Вам служыць? — ветліва пытае мяне гр. Р. Астроўскі. А я і сам ня ведаю, што казаць, ды з чаго пачаць. Маё маўчаньне перабіў сам Дырэктар.

— Будзьце ласкавы, гаварэце шчыра, вы, відаць, у справе платы за навуку?

Не, не, адказваю я, я ў зусім іншай справе... Выбачайце, што час Вам забіраю, але хацеў спытаць у Вас, ці Вам ведама, што нашыя вучні бяруць кнігі з бібліятэкі Навуковага Т-ва і... і не аддаюць іх... прападае значыць, кажу, нашае грамадзкае дабро.

— А, дык Вы ў гэтай справе, вельмі рад, што буду мець яшчэ аднаго сьведку — кажа Дырэктар і з папкі дастае нейкую паперку.

— Глядзеце, кажа, вось паперка бібліятэкара Навуковага Т-ва за № 301, на якую проста ня хочацца адказваць.

Прачытаў гэта я паданую Дырэктарам паперку і ня ведаю, у чым усё-ж тут справа.

Чаму ён на'т адказваць ня хоча, але пасьля падаў мне дырэктар картачкі з прозьвішчамі вучняў паасобных клясаў і кажа:

— Ведаеце, грамадзянін, сорамна прызнавацца да такога Навуковага Т-ва. Глядзеце: Навуковае Т-ва падае мне аж 39 прозьвішчаў, з якіх:

1) Цімэйкі, Рулінскага Зьмітра, Карэньнікава Міхала, Ержыкоўскага Барыса і Букіна ніколі ня было ў Гімназіі (праглядзеў усе сьпіскі за 17 гадоў).

2) Некаторыя вучні ўжо 2 гады як выступілі з гімназіі: Бурынскі, Душкевіч і Зайка.

3) Рэшта — як бачыце — згодна з сабранымі праз клясовых кіраўнікоў дадзенымі ці то зусім *ніколі* ня бралі кнігаў, як, напр. Божка Н. і Крылоў В. ці то даўно кнігі пазварочвалі і толькі двое заявілі, што кніг не вярнулі, бо прыносілі, але... як ідуць у школу, то музэй зачынены і, як выходзяць — таксама зачынены.

Я ня верыў вучням, казаў далей Дырэктар, думаў, што маняць (хоць з нашымі вучнямі амаль гэта не здараецца) і загразіў ім, што калі я атрымаю іх пасквітаваньні аб пазычцы кнігаў і пераканаюся, што яны дасюль кніг не вярнулі, дык тады павыганяю з гімназіі за марнаваньне грамадзкага дабра. Але вучні маю пагрозу прынялі спакойна і з усьмешкай заявілі: „У бібліятэцы музэю такі беспарадак, што нічога дзіўнага, што ад нас дамагаюцца таго, чаго мы ня бралі, або што 2 гады таму зьвярнулі, а ніякіх пасквітаваньняў ад нас ніхто ня браў".

— Больш, грамадзянін, я Вам нічога не скажу, заявіў дырэктар, дайце мне пасквітаваньне вучня на пазычаную кнігу і тады дамагайцеся ад мяне помачы. Школа, выдаючы кнігі *сваім* вучням, якіх ведае, і то бярэ пасквітаваньне, а тут — грамадзкая установа, дзе якніяк сабраны былі цэнныя рэчы — унікаты, — і так гаспадарыць.

Так, больш-менш, выглядала наша гутарка. На гэтым нашае, так сказаць, інтэрв'ю скончылася.

— Выбачайце — сказаў я на разьвітаньне Дырэктару — я, бачыце, ня думаў, што справы так прадстаўляюцца, мне казалі... Я лічыў абавязкам... цяпер — зусім інакш усё выглядае.

Мы разьвіталіся.

Я ішоў і разважаў...

Дык вось як распаўсюджваюцца ўсялякія недарэчнасьці аб гр. Астроўскім? А хто ня ведае, думае — што праўда Аказываецца, тое, што гаворыць (а гаварыў ён ня мне аднаму) гр. Самойла аб Астроўскім звычайная хлусьня.

Я пацікавіўся бліжэй бібліятэкай Навуковага Т-ва і сьцьвярдзіў, між іншым, наступнае:

1) кнігі з Бібліятэкі Т-ва часта можна купіць на рынках у Вільні.

2) у бібліятэцы няма рэвэрсаў.

3) кнігі амаль зусім неўпарадкаваны.

4) каталёг (зроблены не грам. Самойлай, а нашай жабруючай інтэлігенцыяй за марныя грошы) *абыймае толькі малую частку бібліятэкі*. Праўда, частка картачак напісаны і гр. Самойлай, але іх нельга амаль прачытаць і кнігі па іх трудна знайсьці.

5) у запісных кнігах пазычаных кнігаў існуе абсолютны балаган, адна асоба прынясла пазычаную кнігу, а яна і зусім ня была запісана.

6) кнігі трымаюцца часта па 3 гады і ходзяць па розных руках.

7) Гр. У. Самойла, ня гледзячы на вызначаны тэрмін сябрамі Н-ва Т-ва ўпарадкаваць бібліятэту, бібліятэкі не ўпарадкаваў.

Далей я ня цікавіўся. Я хачу толькі на заканчэньне сказаць:

Калі ў нашай бібліятэцы (як у Музэі, можа хто іншы скажа) вядзецца такая гаспадарка, дык не на доўга нам гэтага дабра хопіць. Грамадзкае дабро, здабыванае людзкой працай і потам, марнуецца і ў гэтым вінаваты толькі і выключна гр. А. Луцкевіч, як старшыня, а гр. У. Самойла, як бібліятэкар Т-ва. Ці-ж на тое яны атрымліваюць пэнсыі (і ня зусім благія) каб нішчыць грамадзкае дабро? *Н.*

# БЕЛАРУСКАЯ ХРОНІКА.

— Беларускі хор пад кіраўніцтвам гр. Гр. Шырмы 21 лістапада гэтага году прапяяў у радыё некалькі беларускіх песьняў.—Віленская радыёстанцыя перадавала гэныя песьні на ўсю Польшчу. Як нас інфармуюць, некаторыя з польскіх і заграцічных радыё-слухачоў прыслалі ў Вільню лісты, у якіх выказваюць сваё захапленьне беларускімі песьнямі, якія ім давялося пачуць на гэты раз праз радыё. Такія лісты атрыманы з краю, з Чэхаславаччыны, з Латвіі. Гэныя факты сьведчаць аб тым, што было-б пажадана, каб такія выступленьні беларускага хору адбываліся часьцей.

# З правінцыі.

### Беларуская песьня ў радыё

(Маладэчанскі павет).

У сераду 21 лістапада гэтага году ізноў пачулі мы, радыёслухачы, свае родныя, беларускія песьні. Праўда, нядоўга можна было іх слухаць, усяго толькі 15 мінут, а нам дык здалося, што і 15 мінут не прайшло, так хутка ляцеў час. Добра, што на гэты раз хор прапяяў і некалькі вясёлых песьняў, але ўсё-ж нашыя сумныя песьні больш захопліваюць як нас самых, так, мусіць, і іншых слухачоў, бо-ж у іх найлепш адбіваецца нашае прошлае жыцьцё, мягкі характар і глыбокае пачуцьцё нашага народу. Восьжа песьні, прапяяныя пасьля мінутнага перарыву, зрабілі на нас нязвычайнае ўражаньне. У радыё мы чулі, што хорам кіруе вядомы беларускі рэгент гр. Р. Шырма, які ўжо некалькі разоў выступаў з хорам у радыё, але які хор пяяў, дык у радыё не казалі.

Пэўне-ж пяяў беларускі хор, бо толькі ён можа выконваць з такім пачуцьцём свае родныя песьні, і аб гэтым трэба было-б паведаміць слухачоў. Па другое, замала часу ў радыё прызначана беларускім песьням—за 15 мінут пэўне-ж ня шмат можна прапяяць песьняў, тым больш, што такое выступленьне беларускага хору адбываецца раз на некалькі месяцаў. Пажадана было-б, каб такія выступленьні беларускага хору адбываліся прынамся хоць раз на месяц.

*Радыёслухач.*

**Пашырайце нашу газэту.**

---

дзікі камень. А я? Благаслаўляю дні, што зьніклі, вітаю дні наступнага ў трывозе. Няўжо і вы, як гэны камень дзікі, на шыю занізьзю мне ляжаце увосень? З трывогай гэтай аб адным малюся: каб дні жыцьця майго па вітай сьцежцы вялі мяне да любай Беларусі, дзе кожны з дрэва ліст мне сэрца цешыць."

Рэдакцыя „Калосься" спрытна заключыла літэратурную часьць 3-яе кніжкі ў васеньнія настроі Ільляшэвіча з аднаго боку і Дубоўкі—з другога.

Навуковую часьць разгляданае кніжкі „Калосься" адкрывае сабою, на шмат якіх крыніцах абапёртая, праца Ст. Станкевіча „Беларускія філёмацкія вершы Яна Чачота". Праца цікавая, зробленая з усёю старанлівасьцю маладога аўтора.

А вось што датычыць прозьвішча самога аўтора філёмацкіх вершаў, дык пара было-б разабрацца, як яго правільней было-б па-беларуску пісаць: Чачот ці Чэчат? Пытаньне гэтае паўставала яшчэ ў 1919 ці 1920-м годзе ў Менску, калі пра творчасьць Чачота (Чэчата?) пісаў у беларускай прэсе нябожчык акадэмік Карскі.

Калі браць гэтае прозьвішча проста з польскага — Czeczot, — дык першая форма будзе зусім на месцы.

Але мала хто можа ведае, што каля сяла Галавачы, Горадзенскага павету, ёсьць невялікі двор, які да сусьветнай вайны належаў да аднаго вясёлага пана з гэткім самым прозьвішчам, як і ў аўтора філёмацкіх вершаў. Народ навокал называў гэтага пана ня іначай, як *Чэчат* (ведама-ж з націскам на *чэ*).

Сустрачаў аўтор гэтых радкоў і аднаго народнага настаўніка з Горадзеншчыны на вялікай вайне, які называў сваё прозьвішча Чэчат і быў зусім сьвядомым беларусам. Магчыма, што і самі філёматы ў свой час называлі Jana Czeczota з націскам на *cze*?

Ну, але з прозьвішчамі (асабліва чужаземнымі) наш правапіс заўсёды ў конфлікце.

У артыкуле В. Гадлеўскага „Стагодзьдзе новага беларускага друку" даводзіцца, што сёлета мінае 100 гадоў ад надрукаваньня першай беларускай катахізмоўкі (у польскай вокладцы): „Krótkie zebranie nauki chrześcijańskiey dla wieśniaków mowiących językiem polsko-ruskim wyznania rzymsko-katolickiego". Wilno, w drukarni dyecezalnej, 1835.

Аўтор артыкулу аб сотых угодках гэтае катахізмоўкі даказвае, што мова яе ніякая „польска-руская", а чыста-беларуская, перасыпаная дзе-ня-дзе полёнізмамі, а часам нават русіцызмамі, што ясна і з самых цытатаў, узятых з кніжкі. Ну, хоць-бы гэткія словы:

„Jak nas adkupiu Syn Boży? Astauszy się czaławiekam sam siebie addau na ciażkie muki i na kryżu umior cierpiuczy i pakutujuczy za naszyie hrechi"...

У артыкуле „Да справы веравызнаньня Фр. Скарыны" Ўл. Талочка радзіць прадстаўнікам „маладой беларускай навукі магчыма ў найхутчэйшым часе" прыступіць да апрацаваньня і выданьня кнігі агулам аб Скарыне.

Ведама, што ў слаўнага заснавальніка беларускага друку—д-ра Скарыны было два імёны: Юры (Георгій) і Францішак. Ці Скарына спачатку быў праваслаўным, а пасьля прыняў каталіцтва, ці абодва імёны Скарыны -- каталіцкія, дасюль ня выясьнена,

Д-р І. Дварчанін напісаў у Празе (пачэску) вялікую працу аб Скарыне. Нажаль яна нідзе не апублікована і няма ведама, дзе гэты рукапіс наагул. Магчыма, што там крыецца шмат чаго, няяснага дасюль, аб бацьку нашага друку?...

Артыкулам д-ра Ст. Грынкевіча „З зацемак аб тэатры" ды „Кнігапісам" замыкаецца навуковая часьць 3-яе кніжкі „Калосься". У гэтым „Кнігапісе" знаходзім абшырную рэцэнзію Ад. Станкевіча на адно з выданьняў менскае Акадэміі Навук: „*Пісьменьнік і мова*", зборнік артыкулаў, прысьвячаных барацьбе за культуру мовы. Выдавецтва Беларускай Акадэміі Навук, Менск 1934.

Рэцэнзія ілюструе, з якім запалам нашыя сов-пісьменьнікі ў Менску Александровіч, Клімковіч, прафэсар Піотуховіч і іншыя праводзяць вельмі простую ідэйную тэндэнцыю—„падвод пад асыміляцыю беларускай мовы з мовай расейскай".

У канцы кнігапісу падана кароценькая зацемка аб выхадзе з друку працы нарвэскага вучонага Хр. Станга: „Die Westrussische Kanzleisprache des Grossfürstentums Litauen („Беларуская мова канцэляры вялікіх князёў літоўскіх") von Chr. S. Stang. Выданьне Нарвэскай Акадэміі Навук. Ослё 1935.

„Хроніка" 3-яе кніжкі „Калосься", сабраная з усіх куткоў, дзе толькі праяўляецца культурнае беларускае жыцьцё, дае шмат навінаў беларускаму чытачу.

Няма чамусьці ў хроніцы а ні слова пра беларускае жыцьцё ў Літве. Няўжо-ж там беларуская культурная акцыя зусім спынілася?

*К. М.*

## Экспансія саветаў у Кітайскім Туркестане.

Парыскія газэты зьвяртаюць увагу, што, пад гоман эўрапэйскіх непаразуменьняў і бразгат зброяю на Далёкім Усходзе, савецкі ўрад завяршае вялізарную колёнізацыйную апэрацыю ў Цэнтральнай Азіі.

Масква імкнецца компэнсаваць сябе за няўдачы ў Манджурыі захопам Кітайскага Туркестану. Вялізарная тэрыторыя ў 1.871.000 квадратных кілёмэтраў, гэта знач. у тры разы большая за Францыю, памаленьку абяртаецца ў савецкую калёнію.

Паводле сьвежа атрыманых у Парыжы вестак з кітайскіх крыніцаў, Усходні Туркестан (або інача Сінг-Кіянг) фактычна адарваны ад Кітаю і ўключаны ў сыстэму Савецкага Саюзу. Масква энэргічна ўмацоўвае свае ўплывы ў найболей чулым месцы Азіі—каля граніцаў Індыі і Тыбэту.

У Нанкіне б'юць трывогу з прычыны страты вялізарнае (праўда, з Кітаем ніколі цесна нязьвязанае) правінцыі. Наколькі далёка ўжо зайшла савецкая экспансія, расказвае перадавы артыкул туркестанскага журналу „Тянь-Шань“, што выходзіць у Нанкіне на ўсходня-кітайскім дыялекце турэцкае мовы:

— „На чале кожнае ўрадовае установы пастаўлены чырвоны маскаль. Усюды ў нашай краіне савецкае войска. Кітайскі галоўны камандзер Шэнь-Шы-Сай, па загаду саветаў, арыштаваў пасланых цэнтральным (нанкінскім) урадам людзей і ня даў дазволу на адсылку з цэнтру (Нанкіну) самаходаў і самалётаў у Усходні Туркестан. Усходні Туркестан спыніў гандаль з Кітаем і змушаны цяпер гандляваць толькі з саветамі...

Краіна наша стаіць перад грознаю небясьпекаю. Калі мы цяпер ня прымем экстрэнных мераў, дык праз аберненага ў іхніх руках у забаўку генэрала Шэнь-Шы-Сая саветы даб'юцца выпаўненьня сваіх гнюсных замераў: яны абвесьцяць Усходні Туркестан незалежнаю краінаю пад пратэктаратам савецкае Расеі“.

У Нанкіне чакаюць, што Кітайскі Туркестан абвесьціць сябе „савецкаю социялістычнаю рэспублікаю“ і, як восьмы сябар, увайдзе ў склад СССР.

## Агранічэньне выдаваньня пропускаў у Румынію

Міністэрства ўнутраных справаў выдала загад у справе выдачы пропускаў для пераходу польска-румынскае граніцы. Пропускі гэтыя будуць цяпер выдавацца толькі сталым жыхаром прыгранічнае паласы. Забаронена выдаваць пропускі гасьцям прыгранічных здароўніцаў для асоб, якія ў прыгранічнай паласе знаходзяцца толькі часова.

## Агранічэньні выдачы загранічн. пашпартоў

Міністэрства ўнутраных справаў выдала загад ваяводам у справе выдачы льготных загранічных пашпартоў. Згодна з новым распараджэньнем, льготныя загранічныя пашпарты будуць выдавацца толькі ў вынятковых прыпадках. Літэратары і журналісты будуць атрымоўваць льготныя загранічныя пашпарты толькі ў тым прыпадку, калі іх выезд заграніцу выкліканы неабходнасьцю з пункту гледжаньня агульна-польскіх ці грамадзкіх інтарэсаў.

## Баі з паўстанцамі ў Бразыліі

Аб прабегу, выкліканага бразыльскімі камуністамі, паўстаньня ў сталіцу Бразыліі Ріо-дэ-Жанэйро прыходзяць толькі вельмі скупыя няпоўныя весткі. Палажэньне дзяржаўных войскаў у ваколіцы Пэрнамбуко, праўдападобна, значна палепшылася. Афіцыяльны камунікат падае, што паўстаньне здушана, а яго правадыр узяты ў палон. Прыватныя, аднак, крыніцы падаюць што ў адным з блізка ляжачых сталіцы гарадоў да паўстаньня прылучыліся 1-шы полк і школа пілётаў. Прэса падае, што камандаваньне паўстанчымі войскамі прыняў на сябе ведамы правадыр бразыльскіх камуністаў Луіс Карлёс Прэстэс.

Афіцыяльны камунікат сьцьвярджае, што ў Ріо-Грандэ паўстанцамі створаны камуністычны ўрад, на чале з 2 падафіцэрамі і нейкім музыкантам Пашырыць свае ўплывы не правінцыю камуністам ня ўдалося.

## З італа-абісінскага фронту.

27-га с. м. рас Насібу, камандуючы войскамі ў Джыджызе, паведаміў па тэлефону нэгуса, што кур'еры, якія прыбываюць у Джыджыгу, гавораць аб адступленьні італьянскіх авангардаў. Між іншым, італьянцы пакінулі срочна Анэле. Абісінскія войскі, заняўшы гэтую мясцовасьць, знайшлі там некалькі італьянскіх грузавікоў, напоўненых трупамі. Італьянцы, пакінуўшы Гэрлогубі і Горахаі, адступілі да Уадыну, які знаходзіцца недалёка ад Уаль-Уаля.

Рас Насібу падчырківае, што абісінцы не затрымаліся ў Гэрлогубі і Горахаі, а надалей перасьледуюць праціўніка.

— —

Як пішуць газэты, па абісінскаму афіцыяльнаму паведамленьню, італьянскія войскі ў Огадэне адступаюць на ўсім фронце. Пасьля бою каля Анэле, у якім італьянцы згубілі чатыры танкі і 6 самаходаў, італьянскія сомалійцы адступілі ў беспарадку. Гарнізоны ў Горахаі і Гэрлогубі былі ахоплены панікай, і, пакінуўшы свае казармы, уцяклі ў Уаль-Уаль і Вар Даір, адкуль ня хочуць ісьці на фронт. Абісінскія войскі ўзялі назад Горахаі і Гэрлогубі. Такім чынам, італьянцы згубілі тыя асягненьні, якія здабылі ў 55-дзённай кампаніі.

— —

Як гавораць у абісінскіх асьведамленых кругох, прычынай адступленьня італьянцаў зьяўляецца націск арміі раса Дэсты, катораму ўдалося правясьці свае войскі праз пустыню ў напрамку Долё і ўдарыць у левае крыло італьянскае арміі. Па няспраўджаным весткам, у мінулую пятніцу на поўнач ад Долё разыграўся вялікі бой, у каторым абедзьве стораны панясьлі вялікія страты.

— —

Газэты паведамляюць, што італьянскія войскі пакінулі Макальле і адступілі ў Адзіграт.

Весткам гэтым афіцыяльна запярэчывае італьянскае міністэрства прапаганды.

— —

Агенцтва Гавас паведамляе аб тым, што войскі генэрала Грацыяні панясьлі быццам паражку войскам раса Дэсты ў Сомалі. Гэтая перамога ўзмоцніць левае крыло італьянскіх войскаў, а так-жа перашкодзіць зьдзейсьненьню пляну раса Дэсты, які імкнецца здэзарганізаваць сувязь між італьянскімі часьцямі.

— —

„Дэйлі Тэлеграф“ паведамляе, што маршалак Бадоліо атрымаў інструкцыі з Рыму аб пачацьці энэргічных опэрацыяў на паўночным фронце. Наступленьне павінна ісьці ў заходнім напрамку да граніцы Судану.

Муссоліні даручыў італьянскаму паслу ў Лёндане Грандзі афіцыяльна паведаміць брытанскі ўрад аб тым, што пачатыя італьянцамі дзеяньні давядуць да захопу возера Тана.

„Дэйлі Тэлеграф“ дапушчае, што возера Тана такім прыпадку можа быць занята ў працягу 2-3 тыдняў. Гэтая новая кампанія, падумцы газэты, падыктавана неабходнасьцю хутчэйшага асягненьня рэзультатаў у Абісініі, пакуль яшчэ гаспадарчыя санкцыі не даліся моцна ў знакі Італіі.

## Першы сьнег.

Сьнег ідзе. На зямлю белым пухам кладуцца сьняжынкі,
Быццам коўдрай мягкой і халоднай яе атуляюць;
На лугох і палёх быццам белыя сьцелюць шырынкі,
Быццам ў новае бельле лясы і гаі апранаюць.

Сьнег ідзе. Ціхім роем лятуць сьнегавыя пушынкі,
Ціха круцяцца ў ціхім і сьвежым марозным паветры.
Ціха ўсё... Шалясьцець перастаў—хвою песьцячы—ветрык
І бязшэлестна, ціха, як сон, ападаюць сьняжынкі.

*Б—ч.*

## Вечар беларускае песьні ў памяшчэньні „Братняе Помачы Студэнтаў“ пры УСБ.

27 лістапада ў памяшчэньні „Братняе Помачы Студэнтаў“ пры У.С.Б. у Вільні адбыўся вечар беларускае песьні.

Рэфэрат аб народнай песьні прачытаў ст. А. Цытовіч, пасьля чаго былі прапяяны каля дзесятку беларускіх песьняў, дагэтуль нязнаных. Квартэтам кіраваў той-жа ст. А. Цытовіч.

Прысутных, пераважна студэнтаў, было шмат. Усе асталіся вельмі задаволеныя з зладжанай імпрэзы.

Ад імя беларускай студэнцкай моладзі ст. В. Смаленскі злажыў кал. А. Цытовічу падзяку за зарганізаваньне гэтага вечару.

**М. Дальны.**

## Этнограф.

Грамадзянін Пісакін працірае дзелавіта акуляры і зіркамі глядзіць у вакно. За рэдкім вішняком разгараецца вясковы жніўнёвы від. Поле і поле... А там недзе скаціна ходзіць.

— Тэ...к — задуменна прамаўляе да сябе Пісакін Потградам льлецца з яго, але ён задаволены. Сягоньня наняў работніка гарадзіць плот.

Работнік... проста этнографічны матэр'ял. А трэба ведаць, што Пісакін этнографіяй цікавіцца. Вось, дзе слоўца якое закавырыстае пачуе, прыказку — зараз запіша.

Пахне вырубленым бэзам. Сонца пячэ.

— Вы здалёка самі? — пытаецца Пісакін работніка.

— А мы з Вялікага Сяла, дваццаць вёрст адселева.

Этнограф Пісакін усьміхаецца... Шырокія складкі задаваленьня сплываюць па яго твары.

— Вось добра — думае — дваццаць вёрст. Далёка ад уплываў культуры.

— А вы, дзядзька, ведаеце што такое этнографія?

Работнік задумываецца і прыпамінае. — Этнограпія... — не, не спатыкаў яшчэ дагэтуль...

— А вось вам зараз вытлумачу. Хадзем, дзядзька — і Пісакін пацягнуў зьдзіўленага дзядзьку да хаты.

Пісакін сядае за стол, дзе кіпа паперы.

— Вось — гэта этнографія...

І пачаў чытаць... а работнік уважна слухаў.

... А чы я, цётка, дастану лыжку ешчы малака кіслага?

... Мы-ж ужо вам надоелі, цётка, выбачайце... Заўтра ўжо ня прыйдзем. Даст Бог кончым можа.

... А жыд прыйшоў дай забраў..

— Як, сам?

— Сам.

Жэрдку?

Ыгы...

Каб хто тут быў да таго папёр...

— То што-ж гэта значыць? — пытае работнік, а сам думае: здурэў чалавек на старасьць...

— А гэта — кажа эноограф Пісулькін — народнае багацьце, дзядзька. На кожным кроку гіне старына наша. Вось вы, дзядзька, у фабрычнай кашулі ходзіце, а ці дзед у такой кашулі хадзіў? — у зрэбнай...

— А што-ж казаць пра песьні, казкі, гінуць яны, гінуць, а людзі паміраюць...

— Я іх і запісываю.

— А, то сі хіба,—як-бы зразумеўшы ўставіў работнік.

— Як? Як вы сказалі! – сі хіба, так? — Пісулькін бяжыць да стала і запісывае. Сі хіба — Сі хіба — вымаўляе ён уголас.

Ізноў маршчыны радасьці ўкладаюцца ў розныя геомэтрычныя фігуры...

— Я вас таксама, дзядзька, папрашу расказаць што-небудзь...

— Ну, расказаць, то мы можам — хітра усьмяхаючыся, адказывае работнік. І ён робіць міну, якой хоча паказаць, што і мы штось вартыя.

Этнограф Пісакін усьміхаецца.

Ну, проста этнографічны матэр'ял...

Пачалі плот стаўляць.

Стаўбы неяк там выправілі. І дзень прайшоў. Работнік усё толькі знае расказывае. Як там было тое, як сёе. Як цётка Агата з печы звалілася. Як стары Мікіта самавар з гліны зрабіў. Як у яго жонкі, Маланьні, жывот забалеў, як карову ратавалі. Пакурыць, ізноў штось раскажа.

А этнограф Пісакін толькі ўсё хваць алавічок ды на паперы запісвае. А як трэ' было жэрдкі прыбіваць ды дошкі ў плоце, дык Пісакін сам ужо больш стараўся. Работнік пакажа толькі яму:

— Вы, кажа, вышэй дошку падымеце... і далей разсказывае...

... Вось, як там у нас, па суседзкі адзін кавалер умёр, ня тое што ўмёр, а проста яго прыкончылі... Там вясельле было ў аднэй хаце і то як мы меншыя былі, маладзікі, то той шось сказаў, а той падбег і ў жывот надаваў, і— ужо, дай ні сказаў нават нічога, а ў яго запаленьне тут зрабілася...

— Жэрдку — трэба падняць. Во, так. — А вось, вы паверыце, пажар у нас здарыўся аднойчы... Маці пакінула валенцы гасаці... дай, думаем, засьвецімо лямпу... Узялі мы смаляка з печы. А з таго смаляка як капнула дай на газу... Тут, — як бухнула, як пойдзе па ўсёй хаце полымем. А мы вадой— як бохнем, так і пайшло па ўсёй хаце...

— Як бохнем, як пойдзе — мармоча Пісакін, хутка запісываючы словы работніка.

Кончылі плот нешта за тыдзень. Заплаціў Пісакін грошы работніку. Падзякаваў.

— Можа вам яшчэ што зрабіць? — пытае работнік.

Але Пісакін змучаны маўчаў.

— Тэ..к — задумліва прамовіў работнік і выйшаў з хаты. Па дарозе ён купіў махоркі Закурыў і пайшоў, усьміхаючыся, повольным крокам.

*М. Дальны.*

**Прысылайце падпіску на газэту „РОДНЫ КРАЙ“.**

Рэдактар: А. ФЛЕРАЎ. Выдавец: С. КАРОЛЬ. Друк. Я. Левіна Вільня, Нямецкая вул. 22. Тэл. 21-14.